ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

## Ходзяць чуткі, што...
# ТЭРМІН АБАРАЧЭННЯ ЧЭКАЎ «МАЁМАСЦЬ» БУДЗЕ ПРАДОЎЖАНЫ ЯШЧЭ НА ДВА ГАДЫ

**У свой час Вярхоўны Савет Беларусі ўжо неаднаразова адкладваў тэрміны налічэння і выдачы імянных прыватызацыйных чэкаў. Тады гэта рабілася па тых меркаваннях, што вельмі вялікая колькасць грамадзян Беларусі не паспелі іх атрымаць. Нягледзячы на тое, што налічэнне чэкаў і выдача сертыфікатаў адбывалася ў нашай краіне на працягу амаль 4 гадоў, больш чым 2 мільёны грамадзян рэспублікі па той ці іншай прычыне ў прыватызацыі ўдзелу не прымалі. Чэкі «Маёмасць» колькасцю каля 430 млн. штук атрымалі крыху менш як 5 мільёнаў чалавек. Сёння амаль 100 мільёнаў чэкаў патрачана на набыццё акцый, але астатнія 330 мільёнаў усё яшчэ застаюцца на руках у насельніцтва. Трэба зазначыць, што па закону тэрмін абарачэння чэкаў завяршаецца 1 ліпеня 1999 года. Часу застаецца не вельмі шмат. А калі не ўсе чэкі будуць абменены на акцыі? Няўжо дзяржаве прыйдзецца скупляць іх у насельніцтва? Наўрад ці ўрад краіны разлічваў на такі вынік чэкавай прыватызацыі.**

У Міндзяржмаёмасці наконт магчымага падаўжэння тэрмінаў абарачэння чэкаў «Маёмасць» адказалі наступнае. Сёння гэтай установай, разам з некалькімі зацікаўленымі ведамствамі, падрыхтаваны праект рашэння, па якому чэкі можна будзе абменьваць на акцыі яшчэ на працягу двух гадоў. Рашэнне аб гэтым павінен будзе прыняць Нацыянальны сход рэспублікі ці то ў выглядзе асобнага заканадаўчага акта, ці то яно ўвойдзе ў агульны закон аб прыватызацыі.

У той жа час спецыялісты міністэрства разлічваюць, што хутка на рынку каштоўных папер, звязаных з прыватызацыяй дзяржмаёмасці, адбудзецца значнае ажыўленне дзелавой актыўнасці. Справа ў тым, што днямі міністрам Міндзяржмаёмасці Васілём Новакам было падпісана распараджэнне, згодна з якім з 1 красавіка пачнецца абмен на чэкі «Маёмасць» пакета акцый новых 76 акцыянерных таварыстваў. Агульны аб'ём гэтых акцый дазволіць абмяняць на іх 11 мільёнаў чэкаў.

Рэдакцыя звярнулася па каментарый наконт гэтай падзеі да начальніка галоўнага ўпраўлення каштоўных папер Міндзяржмаёмасці Зінаіды Шаўчэнкі. Па яе словах, акцыі 14 акцыянерных таварыстваў (з агульнай колькасці) будуць абменьвацца на чэкі «Маёмасць» па ўсёй Беларусі. У прыватнасці гэта Добрушская фабрыка паперы, «Гомельбудматэрыялы», «Мазырдрэў», Жлобінскі рамонтна-механічны завод, «Гомельдрэў», Мінскі завод жалеза-бетонных канструкцый, «Мінскпраектмэбля» і інш. Афармленне дакументаў для абмену чэкаў на акцыі прыватызаваных прадпрыемстваў адбываецца ў раённых філіялах «Беларусбанка» па месцы пражывання грамадзян. Уся неабходная інфармацыя па акцыянерных таварыствах знаходзіцца ў пунктах абмену.

Па меркаванню Зінаіды Сямёнаўны, большасць гэтых прадпрыемстваў маюць нядрэнныя фінансавыя пакзчыкі.

**Сяргей КУРКАЧ.**

РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...

# ...ВЫКЛІКАЦЬ САНТЭХНІКА

Рамонт кватэры падобны катаклізму ў межах асобна ўзятай тэрыторыі. А капітальны рамонт жылля ўвогуле раўнацэннае канцу свету. У мяне, напрыклад, рамонт адной толькі сантэхнікі, акрамя грошай, нерваў «спаліў» столькі, што нават страшна падумаць.

Спачатку сапсаваўся кран у ванным пакоі. Бясплатнай заменай пракладкі не абышлося. Сантэхнік, убачыўшы стары змяшальнік, параіў: «Выкіньце яго, гаспадыня». Такім жа радыкальным чынам давялося пазней абысціся і са змяшальнікам на кухні: сантэхнічнае абсталяванне чэшскай вытворчасці савецкага перыяду па нейкіх прычынах цяпер не рамантуюць. А мо і ніколі гэтага не рабілі? Як бы там ні было, а замена гэтых двух прыстасаванняў каштавала мне 25 долараў. Я наўмысна не распавядаю пра цэны на пакупкі ў гаспадарчых магазінах — гэта тэма асобнай гаворкі.

Праз колькі часу пацёк унітаз. Устаноўку новага кампакта (унітаза са зліўным бачком) сантэхнікі ажыццявілі за «дваццатку». Вядома, «зялёных». Устаноўка імпартнага кампакта абышлася б крыху даражэй: штосьці ў ім не падыходзіць да нашай каналізацыйнай сістэмы.

Чарговай непаладкі доўга чакаць не прыйшлося. «Калена» ракавіны ў ваннай дало цечу. Што за гэтым павінна было адбыцца, я ўжо ведала. Але тут я зэканоміла, проста выкінуўшы ракавіну. «Зрэзалі» яе майстры ў лічаныя хвіліны і «ўсяго» за 10 долараў. Яшчэ столькі ж узялі за знікненне крана над мыйкай. Затое на свабоднае месца я пральную машыну паставіла.

На гэтым пакуль рамонтныя работы ў маім жытле скончыліся. Аднак я не расслабляюся. Чакаю, калі загадае доўга жыць «нервовая» сістэма ванны. Вада з крана цячэ ржавая, ніякія фільтры не дапамагаюць. Хутка давядзецца трубы мяняць. Можна, канешне, зноў металічныя паставіць. Ставяць жа людзі. І цана прываблівае — толькі 10 долараў. Ды хочацца медны ці, больш, пластыкавы водаправод пракласці. Адзін метр яго каштуе 5 долараў, а трэба метраў дзесяць. Як аддам 150 кроўных «зялёных» за гэтую работу, вада не тое што празрыстай — залатой падасца.

Прынамсі, застаўся няўлічаным яшчэ адзін артыкул выдаткаў. Трэба дамаўляцца з жэсаўскімі сантэхнікамі, каб тыя адключылі падачу вады ў кватэру на 2-3 дні работы. Кажуць, сярэдняя такса 30 долараў. На «вадкую» валюту сёння ніхто не паквапіцца.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# КАБ КАНКРЭТНАМУ ЧАЛАВЕКУ НАЗЫВАЦЬ СЯБЕ ГРАМАДЗЯНІНАМ БЕЛАРУСІ, КОЛЬКІ НА ТОЕ ГАДОЎ-ДЗЕСЯЦІГОДДЗЯЎ ПАТРЭБНА?

Пра Карпенкаў, ці дакладней — пра Міхася Фядотавіча Карпенку, за апошнія паўтара года я пісаў двойчы. Чалавек не мог прапісацца ў Беларусі, купіўшы ў глыбіннай вёсачцы хату, нідзе — ні ў Туркменіі, дзе пайшоў на пенсію, ні ў Беларусі — не мог атрымаць пенсію. Вымушаны быў заслужаны работнік культуры Туркменістана, член пісьменніцкага і журналісцкага саюзаў, персанальны пенсіянер Туркменістана сядзець на жончынай шыі, перабівацца выпадковымі калгаснымі заробкамі. І, вядома ж, збіраў грошы на білет у Ашхабад. З'ездзіў — з горам папалам аднавіў справядлівасць. Грошы, якія не атрымліваў два ці болей гадоў, выдалі не адразу. Туркменскія новыя століначальнікі, відаць, у знак удзячнасці за тое, што Карпенка з 1957 года адпрацаваў у іх старонцы, як сапраўдны, шчыры, бясхітрасны беларус, сабраліся было крымінальную справу заводзіць: маўляў, ты, Міхась Фядотавіч, галаву нам не дуры, мусіць там, у Беларусі, пенсію атрымліваеш. Неяк пераканаў, што не дурыць. Атрымаў грошы, якраз на зваротную дарогу хапіла, і развітаўся з некалі любай і дарагой старонкай, а цяпер ледзь ці не чужой краінай.

Яшчэ два словы пра Міхася Фядотавіча... І хаця працаваў ён болей як трыццаць гадоў рэдактарам рускіх газет Туркменістана, ніколі не лез са сваім статутам у чужую хату. Карпенка рабіў усё магчымае, каб падтрымаць туркменаў, туркменскае. Прыкладаў таго ёсць досыць многа. А вось калі апошні раз ад'язджаў з Ашхабада, правесці прыйшоў адзін толькі Васіль Шаталаў, стары рускі паэт, публіцыст, празаік. І ён з маладосці — у Туркменіі. З'язджаць некуды ўжо няма ні сіл, ні часу.

Відаць, нешта эмацыянальнае перакапала Міхася Фядотавіча выцягнуць з Азіі ў нашу еўрапейскую краіну і сына Сяргея. Вось зараз пра тое, чым гэтае «выцягванне» абярнулася, хачу і расказаць. Хаця лепей пра ўсё — вуснамі самога Сяргея Карпенкі.

— Я вырас у Туркменістане. Салдацкую службу праходзіў ва Узбекістане. І хаця беларус па бацьках, звыкся, зросся з поўднем. Праўда, вышэйшую адукацыю атрымаў у Мінску, закончыўшы Беларускі політэхнічны інстытут. Размеркаванне атрымаў у Ташауз — там у той час жылі бацькі. Працаваў майстрам, на іншых пасадах. Пакуль падышоў развал Саюза, займаў ужо пасаду дырэктара аднаго з буйнейшых у Туркменістане заводаў будаўнічых матэрыялаў. З усёй павагай ставячыся да набыцця былымі рэспублікамі незалежнасці, усё ж зразумеў, што радасных перспектыў на будучае жыццё ў мяне няшмат. Ды і падумалася: а раптам у Беларусі не тое што лягчэй, а нават цяжэй будзе жыць? Услед за бацькамі, вядома ж, з цяжкасцямі, як заўсёды гэта бывае, перабраўся на радзіму. Выпісаўся з Ташауза не адразу — трэба ж было вырашыць кватэрнае пытанне.

...І тут дазвольце кароткае адступленне. Вы добра памятаеце камедыю «Неверагодныя прыгоды італьянцаў у Расіі»? А прафесара-медыка, які, маючы клініку ў Італіі, згубіўшы свой пашпарт па дарозе ў Маскву, быў вернуты на радзіму? А на радзіме, у Італіі, далей аэрапорта мытнікі прафесара і не пускалі. Неверагодна? Цяжка паверыць у праўдападобнасць? Тым болей, што Італія ўсё ж такі краіна цывілізаваная... Так, сапраўды, наўрад ці нешта падобнае магло б мець месца. Але вось Сяргею Карпенку не да смеху, калі ён глядзіць па тэлевізары пра італьянцаў, якіх з наседжаных гнёздаў у Расію пагнала, заўважце, прага скарбашукальніцтва.

— ... Падчас апошняй сваёй паездкі з Туркменіі ў Беларусь у мяне прапаў пашпарт, — расказвае Сяргей Міхайлавіч. — Вось і стаў я без пашпарта невядома кім. Прапісаць мяне зараз нідзе не хочуць і, наколькі я разумею, не могуць згодна з дзеючым заканадаўствам. У мяне ёсць нумар і дата выдачы пашпарта. Ёсць пасведчанне афіцэра запасу, пасведчанне аб нараджэнні. Захаваліся і іншыя дакументы. У тым ліку і працоўная кніжка. Бацькам ужо пад семдзесят, стан здароўя не з лепшых. Хацеў бы жыць з імі — у Чарняўцы, на Хоцімшчыне. Працы вясковай не баюся. У горадзе будаваў дамы. Тут хачу будаваць сваю гаспадарку, ладзіць нармальнае жыццё. І веру, што ў мяне атрымаецца... Але ж патрэбны пашпарт, грамадзянства, прапіска. Як мне, напрыклад, іначай зямлю атрымаць, фермерскую гаспадарку зарэгістраваць?!..

Звярнуўся Сяргей Карпенка ў пашпартна-візавую службу Хоцімскага раённага аддзела ўнутраных спраў. Нельга сказаць, каб там чалавека адштурхнулі. Наадварот — сітуацыю разгледзелі ўважліва, ды і за кансультацыямі наверх, у Магілёў, звярнуліся. У выніку высветлілася, што механізм вырашэння (а вырашэння праблема ўсё роўна патрабуе, бо Карпенка жыве ў бацькоў, таксама перабіваецца выпадковымі заробкамі) павінен быць наступным. Звярнуўшыся ў Пасольства Рэспублікі Туркменістан у Беларусі, Сяргею Міхайлавічу трэба атрымаць там часовы пашпарт. Пасля неабходна ехаць у Туркменію і чакаць там новы туркменскі пашпарт. А ўжо атрымаўшы яго, выпісацца і падаць заяву аб выхадзе з туркменскага грамадзянства. Выканаўшы ўсё гэта, вярнуцца ў Беларусь і падаць заяву на прапіску і атрыманне грамадзянства.

У прынцыпе, падабаецца гэта каму ці не, можна цалкам зразумець дзяржаву, заканадаўства якой у дадзенай сітуацыі прадугледжвае менавіта такі шлях для выйсця. Бо ў рэшце рэшт усё ж такі гэта асабістая справа грамадзян — пераязджаць з адной краіны ў другую, несці пры гэтым матэрыяльныя страты. Напрыклад, калі нехта выязджае ў ЗША, то ніхто яму грошы на білет не збірае. Безумоўна, розныя параўнанні: вяртанне з Туркменіі — гэта не ў ЗША спроба вырвацца, ды і Беларусь у дадзеным выпадку — радзіма. Ды зноў жа каюся, відаць, жорстка вінаваціць людзей у тым, што многія і многія надзвычайныя праблемы справакаваў развал Саюза. Але і маралізатарстваваць не хачу. На жаль, нам выпаў такі час. Іншага не будзе.

Ды толькі ў выпадку з Сяргеем Карпенкам становіцца ясна і без усялякага маралізатарства, што адно толькі на свае плечы ўсклаўшы ўвесь цяжар сітуацыі, з замкнутага кола ён не вырвецца. Наўрад ці вырвецца. І вось чаму. Калі Сяргей, панёсшы неймаверныя фізічныя і матэрыяльныя затраты, вернецца ў Чарняўку Хоцімскага раёна з туркменскім пашпартам, яго ўсё адно могуць не прапісаць, усё адно могуць не ўзняць пытанне аб атрыманні беларускага грамадзянства. Хто дасць за Сяргея Міхайлавіча паручыцельства? Бацькі? А ім, карэнным беларусам, якія ў свой час паехалі ў Туркменію па накіраванню, зараз толькі дазвол выдадзены на часовае пражыванне ў Рэспубліцы Беларусь тэрмінам на два гады. І невядома калі яшчэ будзе разглядацца пытанне аб грамадзянстве сталага веку людзей. Дай Бог, каб дачакаліся.

У апошнія гады наша краіна, урад шмат зрабілі ў плане дапамогі суайчыннікам, якія пражываюць за межамі Беларусі. Зразумела, была б іншая эканамічная сітуацыя — зрабілі б яшчэ болей. Магчыма, нават паклікалі б многіх дахаты. Як не паспелі некалі паклікаць (а было ж нашмат прасцей, быў жа адзіны Саюз) пісьменніка Міколу Калінковіча з Тбілісі, як не паспелі паклікаць паэта, даследчыка гісторыі, культуры Івана Ласкова з Якуцка. Як не паспелі... У дачыненні да памянёных і многіх абойдзеных ужо позна... А вось Карпенка з сям'ёю вярнуўся сам. Дык хто ж дапаможа беларусу цяпер ужо не з дыяспары?

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*«Гарачыя» тэлефоны «Звязды»*
*268-27-51, 268-27-57*

# ХЛЕБ У КАМЕНКУ БУДУЦЬ ВАЗІЦЬ З КРУПАК

**Патэлефанавалі жыхары вёскі Каменка Крупскага раёна. Уся справа ў тым, што хлеб у гэты населены пункт, як адзначаюць чытачы, возяць не зусім добрай якасці.**

Гэта мякка кажучы. Раней дастаўлялі сюды хлеб вытворчасці мінскіх заводаў, аднак вось ужо недзе каля месяца на прылаўках «пасяліўся» толькі крупскі. У сам жа райцэнтр, як гаварылі жыхары Каменкі, сталічныя боханы ўсё ж завозяць, а ў вёску — ні-ні.

Чым тлумачаць? Ды нявыгадная стала дастаўка. Аднак ад шафёраў хлебных машын вяскоўцы даведаліся, што страты на транспарт мінскія заводы бяруць на сябе. «Дык у чым жа справа?» — спыталі ў нас чытачы.

«Звязда» ў сваю чаргу звярнулася па тлумачэнні да намесніка старшыні Крупскага райвыканкама Анатоля Кліцука. «Парадак у нас сёння такі — хлебам мы гандлюем, але ж імкнёмся менавіта ўласную вытворчасць падтрымліваць. Кожны сёння змагаецца за свой рынак», — адзначыў Анатоль Аляксандравіч. Вядома, хлеб крупскай вытворчасці крыху горшы, чым мінскі, але мясцовыя ўлады пайшлі менавіта па шляху насычэння гандлёвых кропак уласным прадуктам.

Гэта імкненне, вядома ж, можна толькі падтрымліваць (гаворка ідзе пра абарону мясцовай вытворчасці, яе выжыванне ў сённяшніх складаных эканамічных умовах), але і пра якасць неабходна сур'ёзна задумацца. Нездарма ж вясковыя спажыўцы так кепска ставяцца да крупскага хлеба, аддаючы перавагу менавіта мінскай прадукцыі. Трэба шукаць нейкі «трэці шлях», каб забяспечыць тых жа каменскіх бабулек смачнымі боханамі.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

ПОГЛЯД

# У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКУ ЗМЕНЕНА КІРАЎНІЦТВА — ЯКІЯ БУДУЦЬ ЗМЕНЫ Ў КРЭДЫТНА-ГРАШОВАЙ ПАЛІТЫЦЫ?

**Як вядома ўжо, рэзкае падзенне курса беларускага рубля прывяло да змены кіраўніцтва Нацыянальнага банка, а сам курс вернуты «на ранейшае месца». Наконт прычын падзення курса выказана нямала меркаванняў, пры гэтым найбольш укаранілася наступнае: абвал выкліканы спекуляцыйнымі гульнямі банкаў. Аднак было б недальнабачна ўсё зводзіць толькі да спекуляцыйных гульняў і не заўважаць таго факта, што айчынная валюта адчувае сябе, скажам так, не зусім упэўнена. Сведчаннем гэтага ўжо служаць няспыннае падзенне (няхай і адносна павольнае, рэгулюемае) курса беларускага рубля на працягу мінулага года і даволі высокі працэнт інфляцыі.**

**Сваё бачанне сітуацыі з курсам і магчымага развіцця падзей пасля апошніх мераў выказвае эксперт газеты «Звязда», загадчык аддзела Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук, кандыдат эканамічных навук Аляксандр ЛУЧАНОК.**

— Асноўны фактар, які паўплываў на рэзкае падзенне курса беларускага рубля, ужо названы — гэта фактар спекуляцыйных гульняў банкаў. Аднак з тым, каб зрабіць правільныя высновы адносна далейшых крокаў у грашова-крэдытнай палітыцы і ў эканоміцы ў цэлым, нельга абмінаць і іншыя фактары. Так, летась Нацыянальны банк выдаў крэдытаў больш чым на 13 трыльёнаў рубёў (48 працэнтаў пайшло на будаўніцтва жылля, 31 — на крэдытаванне нарыхтовак сельгаспрадукцыі, 15 — крэдытаванне вясенавых палявых работ). Прычым адну трэць усёй крэдытнай эмісіі атрымаў урад. Яму ж у канцы мінулага года (у снежні) Нацбанк выдаў крэдыт на суму 1,2 трыльёна рублёў...

Гэта і прывяло да таго, што ў пачатку сёлетняга года з'явіўся грашовы ціск на рынак. У студзені ён быў часткова зменшаны за кошт таго, што некаторыя расійскія банкі акумуліравалі ў сябе беларускія рублі і нават паклалі на дэпазіт у беларускіх жа банках. Але ж камерцыйныя банкі па сваёй прыродзе закліканы пускаць грошы ў абарот, у справу. У гэтых варунках слушна меркаваць, што і тыя ж расійскія банкі не могуць працаваць сабе на страты (дэпазітнае ж захоўванне грошай у нашых умовах па сутнасці стратнае) і бясконца трымаць беларускія рублі, якія яўна абясцэньваюцца, на сваіх рахунках. У выніку грошы зноў былі вернуты на рынак з мэтай іх канвертацыі. Прычым калі Нацыянальны банк у мінулым годзе яшчэ меў дастаткова сродкаў для актыўных дзеянняў на маскоўскай валютнай біржы, то цяпер — не. Так, на пачатак цяперашняга года чыстыя замежныя актывы НБ складалі каля 83 мільёнаў долараў, а на пачатак сакавіка іх амаль не было. У выніку НБ не мог актыўна падтрымаць беларускі рубель. Па сутнасці, яго адзінай мерай стала неафіцыйнае ўказанне на абмежаванні замежных плацяжоў у беларускіх рублях на суму звыш 300 мільёнаў, што, аднак, яшчэ больш узмацніла попыт на валюту, а таксама парадзіла ажыятажныя чаканні. Гэтыя фактары і, вядома ж, імкненне асобных банкаў зарабіць на адзначанай сітуацыі і прывялі да рэзкага падзення беларускага рубля.

Як могуць развівацца падзеі цяпер?

Ужо многім вядома, што новы старшыня праўлення Нацбанка Пётр Пятровіч Пракаповіч — прыхільнік пад'ёму эканомікі за кошт як мага большага ўлівання ў яе грошай. Логіка тут простая: беларускім прадпрыемствам не хапае грошай, каб паспяхова працаваць, — дык давайце надрукуем іх і дадзім прадпрыемствам. У выніку ў прадпрыемстваў будуць абаротныя сродкі, і яны будуць працаваць. Летась менавіта так і атрымалася. Але ж гэтыя грошы, якія былі дадзены прадпрыемствам, і прывялі летась да росту цэн. Уся грашовая эмісія фактычна пайшла на рост цэн і прывяла да паніжэння курса беларускага рубля.

Цяпер Пётр Пятровіч Пракаповіч будзе адказваць за курс рубля і ў цэлым за стан крэдытна-грашовай палітыкі не апасродкавана, як раней, а рэальна і, варта спадзявацца, будзе больш асцярожным у прадастаўленні фактычна бясплатных грошай — на падтрымку сельскай гаспадаркі або на жыллёвае будаўніцтва (між іншым, сёлета на жыллёвае будаўніцтва ўжо намечана выдзеліць каля 5 трыльёнаў рублёў).

Якія меры варта прыняць, каб знізіць попыт на замежную валюту?

У першую чаргу ўзняць уліковую стаўку НБ з тым, каб яна была вышэйшая за рэальныя тэмпы падзення курса рубля. Па прыкідках, гэта павінна быць стаўка не ніжэйшая за 100—120 працэнтаў гадавых (цяпер — 50).

І, вядома ж, трэба палепшыць дзейнасць камерцыйных банкаў. Пры гэтым бачыць у іх у першую чаргу партнёраў дзяржавы, якія разам з тым хочуць атрымаць неабходны для іх існавання прыбытак. Цяпер жа многія банкі нярэдка вымушаны выдаваць прадпрыемствам крэдыты (па разнарадцы) фактычна ва ўрон сабе. Так, за мінулы год банкі выдалі крэдытаў амаль у 2,27 раза болей, чым у 1996 годзе, прамысловасці і таксама ў 2,27 раза болей — сельскай гаспадарцы. І ў той жа час рост крэдытнай запазычанасці склаў за год (у адносінах да 1996 года) па сельскай гаспадарцы — 226 працэнтаў, па прамысловасці — 221 працэнт...

*Так бачыць сітуацыю наш эксперт, які, дарэчы, непасрэдна вывучае пытанні крэдытна-грашовай палітыкі. І ў тым, што эканоміку нельга напампоўваць нічым не забяспечанымі грашыма, што розныя крэдытныя льготы асобным прадпрыемствам і галінам, а таксама грамадзянам цяжкім грузам кладуцца на ўсіх астатніх, ціснуць на той жа курс, — А. Лучанка варта цалкам падтрымаць. «Бясплатных», танных грошай не павінна быць. Грошы павінны з'яўляцца не пры дапамозе друкарскага станка, а ствараецца ў працэсе вытворчасці, у так званым рэальным сектары эканомікі — пры абавязкова эфектыўным выпуску прадукцыі, г. зн. такой вытворчасці, калі цалкам пакрываюцца ўсе выдаткі і на рахунак кладзецца дадатковы капітал. У нас жа ў немалой колькасці існуюць стратныя прадпрыемствы, і на іх часам асабліва не скардзяцца на жыццё, чаго ў нармальнай эканоміцы проста не павінна быць. А чаму не скардзяцца — гэта цалкам зразумела з вышэйсказанага.*

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

ПА СЛЯДАХ НАШЫХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ

# У ДАВЫД-ГАРАДКУ З'ЯВІЛАСЯ НАГОДА ДЛЯ АПТЫМІЗМУ

**Надзвычай аператыўна адрэагавалі ўлады Століншчыны на публікацыю «Звязды» «Мы можам рэкі павярнуць, або Чаму ў Давыд-Гарадку «плаваюць» тыя, хто «плаваць» не павінен?», якая была надрукавана 18 сакавіка і расказвала пра прычыны паводкі ў гэтым палескім мястэчку.**

У той жа дзень Давыд-Гарадок наведалі начальнікі штабоў грамадзянскай абароны Століна і Пінска Васіль Скрабец і Леанід Кулага. Вечарам у эпіцэнтры падтаплення з'явілася і спецыяльная тэхніка. Дзякуючы рабоце перасовачнай помпы за палову мінулых сутак узровень вады зменшыўся амаль на 10 сантыметраў.

Створаная напярэдадні камісія Давыд-Гарадоцкага гарвыканкама зафіксавала ўрон, нанесены стыхіяй гарадчукам. У рублях яго пакуль складана адлюстраваць. Але, згодна са звесткамі камісіі, пацярпелі каля трох дзесяткаў хат, на прысядзібных участках аказаліся ў вадзе больш за 200 пладовых дрэў, знішчана каля тоны бульбы, чатыры тоны брыкету і інш.

Як запэўніў карэспандэнта «Звязды» Васіль Скрабец, праз двое-трое сутак работы помпы небяспека ўжо не будзе пагражаць сядзібам гарадчукоў.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# МІНСК—ЛІДА—ГРОДНА: усе — прафесіяналы, усе хочуць лепшага. А паразуменне немагчыма?

**28 лістапада мінулага года ў артыкуле «Смачны кавалак, альбо Як прымушаюць да «разводу» не жадаючых гэтага гродзенцаў і лідчан» «Звязда» паведаміла пра сход акцыянераў ААТ «Гроднааптгандаль». Галоўнай тэмай гарачых дэбатаў быў далейшы лёс камерцыйнага прадпрыемства «Лідааптгандаль».**

Тое, што вытворчыя магутнасці гэтага прадпрыемства сёння выкарыстоўваюцца неэфектыўна, — факт відавочны. Рашэнне наконт будаўніцтва Лідскай металабазы было прынята яшчэ за савецкім часам. Меркавалася, што ёй будзе належаць галоўная роля ў забеспячэнні патрэб вобласці металапрадукцыяй. Аднак сённяшнія рэаліі такія, што многія прадпрыемствы купляюць яе напрамую, на гэтым рынку працуе шмат камерцыйных структур, а доля паставак металу сістэмай канцэрна «Белрэсурсы» мізэрная. Як паведаміў рэдакцыі намеснік генеральнага дырэктара канцэрна В. Хадыка, «пры патэнцыяле выканання сярэднямесячнага тавараабароту па спецыялізацыі «Лідааптгандлю» ў 100 мільярдаў рублёў фактычны тавараабарот не перавышае 2,2 мільярда рублёў у месяц. Поўная загрузка вытворчых магутнасцяў «Лідааптгандлю» можа забяспечыць стварэнне ў горадзе звыш 200 новых рабочых месцаў». Што ж для гэтага патрэбна?

Канцэрн «Белрэсурсы» паставіў задачу значна павялічыць пастаўкі металапрадукцыі спажыўцам рэспублікі. Каардынацыя гэтай работы будзе ажыццяўляцца на падставе праграмы «Метал» — тут і вывучэнне асартыментнай патрэбнасці ў металапрадукцыі спажыўцоў, кан'юнктуры рынку, цэн, і стварэнне ў Мінску спецыялізаванага аптовага рынку і яго філіялаў па абласцях. Ужо пераўтвораны ў самастойныя прадпрыемствы з правам юрыдычнай асобы некаторыя былыя металабазы. Гэта дазволіла павялічыць тавараабарот і прыбытак ад гаспадарчай дзейнасці, ліквідаваць ранейшыя страты, стварыць дадатковыя рабочыя месцы.

Канцэрн «Белрэсурсы» лічыць, што ААТ «Гроднааптгандаль» і самастойнае акцыянернае таварыства «Лідаметалбудгандаль», якое ствараецца шляхам выдзялення яго з саставу «Гроднааптгандлю», валодаючы ўсім неабходным абсталяваннем для работы з металапрадукцыяй, змогуць знайсці самастойныя рашэнні, формы і метады працы для выканання статутных задач, накіраваных, у першую чаргу, на работу па забеспячэнню бюджэтнай сферы, насельніцтва і таваравытворцаў... Акрамя таго, стварэнне самастойнага акцыянернага таварыства «Лідаметалбудгандаль» спросціць звённасць кіравання, яго кіраўнік стане членам спецыялізаванай камісіі савета канцэрна «Белрэсурсы» па пастаўках металапрадукцыі для патрэб рэспублікі і рэгіёна. А работа прадстаўнікоў дзяржавы, якія прызначаюцца канцэрнам «Белрэсурсы» ў органы кіравання ААТ «Лідаметалбудгандаль» і працуюць на вызваленай аснове, дазволіць забяспечыць эфектыўнае кіраванне дзяржаўным пакетам акцый таварыства».

За стварэнне адкрытага акцыянернага таварыства «Лідаметалбудгандаль» вышэйпамянёным шляхам на сходзе прагаласавалі два работнікі канцэрна — прадстаўнікі дзяржавы ў ААТ «Гроднааптгандаль», якім перададзены ў кіраванне дзяржаўны пакет акцый — 74,6 працэнта ад агульнай колькасці. Гродзенцы галасаваць адмовіліся. Чаму? Няўжо справа ў нейкіх асабістых інтарэсах кіраўнікоў таварыства і яны падштурхоўваюць да процістаяння з канцэрнам сваіх падначаленых? Мяркуйце самі. Лідскае прадпрыемства будавалася з 1991 па 1995 год з прыбытку «Гроднааптгандлю», што не дазваляла апошняму развіваць уласную сацыяльную сферу і абнаўляць асноўныя фонды гродзенскай базы, якія і фізічна, і маральна зношаныя на 75 працэнтаў. Па ініцыятыве калектыву «Гроднааптгандлю» не з'явіўся яшчэ адзін «мёртвы помнік» незавершанага будаўніцтва. Да таго ж доўг лідскага прадпрыемства акцыянернаму таварыству складае звыш 10 мільярдаў рублёў.

Дарэчы, лідчане на сходзе працоўнага калектыву выказаліся супраць «разводу» з ААТ «Гроднааптгандаль». Так, перспектывы пасля непасрэднага падпарадкавання канцэрну абяцаюць нядрэнныя. Аднак чаму нельга наладзіць узаемавыгаднае супрацоўніцтва паміж цэнтрам і рэгіёнамі ў рамках існуючай структуры? Гэта пытанне неаднаразова гучала падчас васьмігадзінных дэбатаў у Гродне. І яшчэ аргумент: выдзяленне «Лідааптгандлю» з саставу гродзенскага акцыянернага таварыства з непасрэдным падпарадкаваннем канцэрну «Белрэсурсы» супярэчыць умовам уваходжання ААТ «Гроднааптгандаль» у канцэрн.

Пасля сходу Міністэрства па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі паведаміла, што «канцэрн «Белрэсурсы», даручаючы прадстаўнікам дзяржавы ў органах кіравання ААТ «Гроднааптгандаль» галасаваць на сходзе акцыянераў за рэарганізацыю таварыства, дзейнічаў неправамерна».

Дзяржаўныя акцыі перададзены канцэрну толькі ў аператыўнае кіраванне, без права распараджэння імі. Таму, на думку Міндзяржмаёмасці, «рашэнні аб ануляванні ці раздзяленні (зліцці) пакетаў акцый, якія належаць дзяржаве, знаходзяцца ў кампетэнцыі Савета Міністраў».

Што датычыцца пазіцыі Гродзенскага аблвыканкама, дык яна не змянілася — мясцовая ўлада «падтрымлівае думку аб магчымасці рэалізацыі планаў канцэрна «Белрэсурсы» без раздзялення акцыянернага таварыства «Гроднааптгандаль».

Чакаецца, што неўзабаве работнікі «Гроднааптгандлю» і прадстаўнікі канцэрна зноў сустрэнуцца ў горадзе над Нёманам, каб сярод іншых зноў абмеркаваць і вышэйпамянёную праблему. Хочацца пажадаць калегам узаемапавагі і ўліку аргументаў кожнага. Напэўна, толькі на такім шляху магчымы станоўчы вынік.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

ПАСЛЯ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ НАРАДЫ Ў ГРОДНЕ

# ГЭТЫ «ВЯТРАК» НАКОРМІЦЬ НЕ АДНУ ВЁСКУ



**Успомніце класічную карціну: вясковы млын махае крыламі, да яго выстраілася чарга фурманак, з шырокіх дзвярэй забеленыя мужыкі выцягваюць белыя мяхі... Усё радзей убачыш такі настальгічны сюжэт. Млыноў паменела, ды і возяць у асноўным не фурманкамі, а машынамі — калгаснае збожжа на камбінаты-гіганты.**

Аматарам выпечкі ўласных караваяў пайшлі насустрач на Жабінкаўскім камбікормавым заводзе: паставілі для іх міні-млын. Не, не прастойвае. На месяц наперад мясцовыя жыхары запісваюцца.

Дзе млын, там і пякарня. Таксама «міні». На гэтым тыдні першую партыю свайго хлеба хочуць паспытаць.

На рэспубліканскай нарадзе па праблемах аграпрамысловага комплексу ў Гродне выразна і патрабавальна гаварылі пра забяспечанасць сельскай гаспадаркі паўнацэннымі і таннымі камбікармамі. На жабінкаўскім заводзе лічаць, што прамы шлях да гэтага — тэхнічнае пераўзбраенне. Тут вядуць поўную камп'ютэрызацыю вытворчых працэсаў, якая дазволіць гарантавана кантраляваць якасць.

Сказаць, што ўдасканальваецца тэхналогія вытворчасці — амаль нічога не сказаць: яна істотна абнаўляецца. Усе ведаюць, як выглядаюць кукурузныя палачкі. На лініі экструдзіравання зерня пад ціскам з ім адбываецца тое ж самае, пасля чаго значна павялічваецца пажыўная каштоўнасць. Яшчэ на адной лініі ў камбікармы ўводзяцца мікакарбы, якія





заглушаюць найменшыя праявы плесні і садзейнічаюць доўгаму захоўванню. А дабаўка энзімаў забяспечыць лепшае засваенне камбікармоў жывёлай і птушкай.

Намеснік дырэктара Надзея Гутар расказвае, што зерня мясцовых калгасаў і саўгасаў не хапае, вымушаны закупляць у суседніх рэспубліках. А яшчэ шрот сланечніку, рыбную муку, прэміксы. Канечне, адбіваецца на цане. Праўда, зараз «пусцілі» на свае плошчы камерцыйную фірму, і яна ўстанавіла лінію для перапрацоўкі сланечніку. Так што будуць з уласнымі алеем і шротам, змогуць збалансаваць асноўную прадукцыю па пажыўнасці.

Закончым тым, з чаго пачалі — клопатам пра сялянскае падвор'е. Пакуль што завод прадае мясцоваму насельніцтву прыкладна 5 працэнтаў сваіх канцэнтратаў.

— Але адчуваем, што попыт на іх расце, бо хлебам стала нявыгадна карміць жывёлу, і мы гатовы павялічыць долю прадукцыі для рэалізацыі прыватнаму сектару, — гаворыць Надзея Георгіеўна. — У нас ёсць свой фірменны магазін у Жабінцы, а ў Брэсце і раёне курсіруе аўталаўка. Практыкуем і рэалізацыю праз сельскія Саветы, у рознічным гандлі.

**На здымках:**

1. Тэхнік-тэхнолаг Марыя ЯКАВУК (злева) і ўрач-таксіколаг Святлана КАРАБАН за ўстаноўкай для вызначэння наяўнасці соляў цяжкіх металаў.

2. Апаратчыца Таццяна БАРСУКОВА.

3. Ідзе адгрузка гатовай прадукцыі.

**Уладзімір БЯРЭЗІН, Яўген ПЯСЕЦКІ (фота).**

# АЎТАРЫТЭТ БАНКА

**У нядаўнім інтэрв'ю нашай газеце дырэктар Цэнтра банкаўскіх даследаванняў пры Асацыяцыі камерцыйных банкаў Міхаіл Кавалёў, аналізуючы дзейнасць банкаўскай сістэмы, прывёў у прыклад некалькі вядучых банкаў, якія ў значнай ступені ўплываюць на фінансавае становішча краіны. І першым сярод іх ён назваў АК «Белпрамбудбанк».**

Менавіта гэта выказванне знаўцы банкаўскай справы прыйшло на думку ў час нядаўняга сходу акцыянераў гэтага банка, на якім давялося прысутнічаць. Слухаючы даклады генеральнага дырэктара Мікалая Ракава, старшыні праўлення Леаніда Калугіна, выступленні прамоўцаў, даводзіцца канстатаваць, што старэйшы банк рэспублікі (у жніўні гэтага года Белпрамбудбанку споўніцца 75 гадоў) і сапраўды з'яўляецца вядучым у сваёй галіне. Пра гэта сведчаць і вынікі работы за мінулы год.

Не варта лішні раз падкрэсліваць, у якіх няпростых эканамічных умовах знаходзіцца народная гаспадарка краіны і найперш — прамысловасць. Дарэчы, Белпрамбудбанк якраз абслугоўвае каля 80 працэнтаў прамысловых прадпрыемстваў краіны, прычым найбольш буйных, пастаянна аказвае ім неабходную фінансавую падтрымку. І якія ж асноўныя вынікі развіцця банка за мінулы год?

Летась намаганні банка былі сканцэнтраваны на нарошчванні рэсурснай базы з тым, каб забяспечыць патрэбнасці прадпрыемстваў і арганізацый у крэдытах для набыцця энерганосьбітаў, сыравіны, камплектуючых вырабаў, папаўнення абаротных сродкаў, а таксама на інвестыцыйныя мэты, звязаныя з мадэрнізацыяй вытворчасці і павышэннем якасці прадукцыі.

Многае зроблена па павышэнню агульнай сумы капіталу банка, якая вырасла больш як удвая і склала на 1 студзеня гэтага года 1.311.733 мільёны рублёў, а статутны фонд за гэты час вырас на 45.968,6 мільёна рублёў і склаў 95.911,2 мільёна рублёў (або 2,8 мільёна ЭКЮ).

Для падтрымання ў структуры мабілізаваных рэсурсаў долі сродкаў насельніцтва банк прыняў меры па забеспячэнню канкурэнтаздольнага ўзроўню працэнтных ставак, магчымасці штомесячнага атрымання даходу па доўгатэрміновых укладах і размяшчэння грашовых сродкаў на прымальныя для ўкладчыкаў тэрміны. Для большай прыбытковасці ўкладчыкам тэрміновых дэпазітаў выплачваўся дадатковы даход у выглядзе выйгрышаў, за кошт прыбытку банка пачалася выплата кампенсацый ветэранам вайны, як сацыяльнанеабароненай катэгорыі ўкладчыкаў. А таму банк не толькі захаваў сваіх ранейшых укладчыкаў, але і прыцягнуў новых. У выніку больш як 476 тысяч іх даверылі банку 1032 мільярды рублёў, або на 32 працэнты больш, чым летась.

Пэўная работа праведзена і па далейшаму ўдасканаленню крэдытнай палітыкі банка. Аб'ём крэдытных укладанняў Белпрамбудбанка ў эканоміку краіны летась склаў 12.540,1 мільярда рублёў. У параўнанні з 1996 годам аб'ёмы выдадзеных крэдытаў выраслі на 4399,4 мільярда рублёў, або на 54 працэнты. У асноўным яны накіроўваліся на крэдытаванне інвестыцыйных праектаў і мадэрнізацыю вытворчасці, крэдытаванне дзяржаўных праграм па фінансаваму аздараўленню і стабілізацыі работы прадпрыемстваў, забеспячэнне разліку за энергарэсурсы.

Выключную ролю Белпрамбудбанка ў стабілізацыі вытворчасці адзначыў генеральны дырэктар Баранавіцкага баваўнянага аб'яднання Сяргей Руцкі. У неймаверна цяжкіх умовах, у якіх апынулася летась буйнейшае прадпрыемства галіны, 200-мільярдны крэдыт банка, па словах Сяргея Барысавіча, з'явіўся для шматтысячнага калектыву менавіта тым выратавальным кругам, з дапамогай якога ўдалося ўтрымацца на плаву. У выніку гэтай дапамогі калектыў змог разлічыцца за сыравіну, папоўніць абаротныя сродкі і пагасіць даўгі.

З падзякі ў адрас Белпрамбудбанка пачаў сваё выступленне і генеральны дырэктар «Гомсельмаша» Валерый Жмайлік. І тут з дапамогай шматмільярдных банкаўскіх крэдытаў удалося палепшыць справы.

У цэлым жа сход акцыянераў яшчэ раз прадэманстраваў, што праводзімая крэдытная палітыка Белпрамбудбанка садзейнічала эканамічнаму росту базавых галін народнай гаспадаркі і нарошчванню аб'ёмаў вытворчасці ў сферы сярэдняга і малога бізнесу.

Выдзяляючы крэдыты на развіццё эфектыўных і грамадска значных вытворчасцяў, далейшае расшырэнне выпуску канкурэнтаздольнай прадукцыі, на будаўніцтва жылля і сацыяльна значных аб'ектаў, банк тым самым выконваў і выконвае ўскладзеныя на яго задачы. А ўсё гэта разам узятае садзейнічае росту яго аўтарытэту.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

